ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года

№ 7(5189) Чацвер, 18 студзеня 2001 года

Кошт у розніцу — 47 руб.

На мой погляд

# Не далей агульных "мерапрыемстваў"?

## З чаго пачынаецца садружнасць класнага кіраўніка з бацькоўскім камітэтам

ХТО з настаўнікаў, асабліва класных кіраўнікоў, не хацеў бы мець актыўных памочнікаў сярод бацькоў сваіх вучняў? Толькі ў супрацоўніцтве, толькі аб'ядноўваючы намаганні і ўзгадняючы свае дзеянні, і можна вырашаць разнастайныя праблемы выхавання, якія стаяць перад школай і сям'ёй. Аднак як часта бывае на класных бацькоўскіх сходах, калі выбіраецца бацькоўскі камітэт? Хто менш заняты на працы, у таго і больш часу для таго, каб дапамагаць настаўніку — з такой пазіцыі звычайна і прапаноўваюцца кандыдатуры ў актыў: каму ж, маўляў, як не ім, і карты ў рукі — правядзенне класных мерапрыемстваў? Дык хіба варта здзіўляцца, што пасля выбараў па такім сцэнарыі ў бацькоўскі камітэт трапляюць не самыя зацікаўленыя ў актыўнай грамадскай рабоце па вырашэнні школьных праблем людзі? Таму і кантакты класнага кіраўніка з такім актывам, як правіла, эпізадычныя, сапраўдная ж садружнасць так і не наладжваецца.

Аднаго разу мяне запрасілі на сустрэчу настаўнікаў і бацькоў за "круглым сталом". Запомнілася, з якой горыччу гаварыла пажылая настаўніца, што вядомае ўсім нам словазлучэнне "сям'я і школа" набывае ўжо іншы сэнс: сям'я *альбо* школа... Так, нярэдка даводзіцца чуць, што сям'я абвінавачвае, як гаворыцца, ва ўсіх грахах школу, а настаўнікі, ад сваёй падчас бездапаможнасці ў рабоце з так званымі праблемнымі падлеткамі, у адчаі ганьбяць пад адзін грэбень бацькоў. А можа, тут агульная віна, таму што канчатковы вынік — узровень ведаў і выхаванасці дзяцей — залежыць як ад школы, так і ад сям'і? А хіба ж толькі ад школы і сям'і?.. А сацыяльны фактар?.. Калі ён неспрыяльны, то што можа супрацьпаставіць гэтаму фактару настаўнік, які і так фактычна за "капейкі" выжыльваецца на мяжы сваіх душэўных, разумовых і фізічных сіл?..

І ўсё ж: ці такая ўжо бяссільная школа, каб нават у цяперашніх вельмі складаных сацыяльных умовах дапамагчы тым дзецям і тым сем'ям, якім яшчэ можна дапамагчы?

На згаданай мной сустрэчы за "круглым сталом" я пачуў такую гісторыю. Два гады бацька аднаго дзіцяці збіваў яго на горкі яблык. Але вучань і яго маці ўтойвалі гэта ад настаўнікаў. Урэшце падлетак не вытрымаў здзекаў і збег з дому. Яго сябры тады і расказалі класнаму кіраўніку пра здзекі бацькі над сынам. Дырэктар школы і класны кіраўнік прыйшлі да горабацькі і правялі з ім, наколькі гэта было магчыма, "выхаваўчую работу". Школа ўзяла гэтую сям'ю пад кантроль. У рэшце рэшт атмасфера ў сям'і змянілася. Хлопчык павесялеў, пачаў лепш вучыцца. "Але ж у ягоных вачах, — расказвала на сустрэчы за "круглым сталом" настаўніца, — яшчэ відаць душэўную рану..."

Так, душэўныя раны нават у дзяцей загойваюцца не так хутка, як бы нам хацелася... Шкада, што на тым пасяджэнні "круглага стала" ніхто не задаў пытанне, над якім я пасля разважаў: чаму ж падлетак утойваў ад настаўнікаў насілле над ім у сям'і? Баяўся бацькі? А можа таму, што па нейкай прычыне не мог даверыцца?.. Дзіўна, што і вучнёўскае "радыё" не данесла да настаўнікаў інфармацыю пра гвалт над падлеткам. Няўжо нікому з педагогаў ні разу не кінуўся ў вочы стан хлопчыка на ўроках пасля чарговай дамашняй "разборкі"? Ад яго ж уважлівасці і стараннасці яны не былі ў захапленні... У класе ж, напэўна, і класныя гадзіны праводзіліся, і ранішнікі, і віктарыны, і г.д. і да т.п. Але ў пакрыўджанага, запалоханага бацькам дзіцяці так і не ўзнікла жаданне адкрыць сваё сэрца настаўніку...

Каму ж патрэбны ўсе гэтыя "мерапрыемствы", калі яны пазбаўлены чалавечага цяпла і сардэчнасці?

У маім блакноце застаўся запіс з таго "круглага стала": "бацькоўскія камітэты, саветы садзейнічання сям'і і школе, саветы татаў, камісіі па справах непаўналетніх" — колькі розных суполак працуе на ўмацаванне садружнасці сям'і і школы! А чаму ж вынік іх дзейнасці, мякка кажучы, нярэдка вельмі сціплы? Ці многа мы ведаем сем'яў, дзе бацькі сумесна праводзяць час не толькі за тэлевізарам? Ці ёсць увогуле сем'і, у якіх бацькі і дзеці разам чыталі б адну кнігу ці часопісную публікацыю? Чаму ж мы так транжырым сваё галоўнае багацце — свой час, абкрадваючы самі сябе і сваіх дзяцей, не заўважаючы нават, што мы ўжо развучыліся (а мо так і не навучыліся?) шчырым, сардэчным узаемінам? Хіба ж гэта ўзаеміны — пустапарожнія размовы ні аб чым і рэплікі накшталт: "А ці вывучыў ты ўрокі?", "Як твае справы?" Пра якое ж тады выхаванне душы і фарміраванне жыццёвых арыенціраў дзяцей вядзём гаворку?..

ЗНАЁМЯЧЫСЯ з вопытам руплівых класных кіраўнікоў, звяртаю ўвагу вось на што: якім чынам яны ствараюць бацькоўскі актыў? Перш за ўсё — апытваюць усіх бацькоў: хто з іх жадае працаваць у бацькоўскім камітэце і чым канкрэтна можа дапамагчы класу і школе? Адны высвятляюць гэта ў індывідуальных гутарках з бацькамі, другія — праводзяць анкетаванне, але мэта дасягаецца адна і тая ж.

На адным з бацькоўскіх сходаў у сёмым класе мне спадабалася тое, што настаўніца пачала яго з абмену думкамі з бацькамі пра тое, колькі часу яны ўдзяляюць узаемінам са сваімі дзецьмі. Размова з першых хвілін не вельмі клеілася: каму ж хочацца ўслых гаварыць пра набалелае? Але пакрысе размова ажывілася дзякуючы ўмеламу дырыжыраванню настаўніцы. Як я даведаўся пасля сходу, яна загадзя раздала бацькам анкеты, каб яны адказалі на некаторыя пытанні. Гэтыя адказы і выкарыстала класны кіраўнік у сваім выступленні, не называючы, зразумела, прозвішчаў рэспандэнтаў. Таму і гаворка на сходзе адбылася шчырая, зацікаўленая. Разам з настаўніцай бацькі абмеркавалі прапановы па павышэнні педагагічнай кампетэнтнасці татаў і мам. Настаўніца параіла бацькам прачытаць спецыяльную літаратуру па сямейным выхаванні з парадамі спецыялістаў — псіхолагаў, педагогаў і медыкаў, а некалькі кніг адразу ж дала тым, хто найбольш зацікавіўся імі. Такім чынам і пачаўся педагагічны ўсенавуч бацькоў. І значную частку гэтай ношы ўзяў на сябе бацькоўскі камітэт, на які, як я зразумеў, настаўніцы пашэнціла.

А бывае ж, як мы з вамі ведаем, і інакш. Адзінае, чым і займаецца бацькоўскі камітэт, гэта падрыхтоўка навагодніх падарункаў для дзяцей і збор "спонсарскіх" сродкаў на пераабсталяванне вучэбнага кабінета. "Адзінае? — здзівіцца нехта. — І за гэта трэба дзякуй сказаць бацькам пры нашай школьнай беднасці". Так, не кожны класны кіраўнік можа пахваліцца, што бацькі дапамагаюць яму і ў гэтым. Але ж хіба толькі гаспадарчымі клопатамі можа падсабіць бацькоўскі камітэт настаўніку?.. Я ведаю, што ў многіх школах, як і ў класах, вучэбная, культурна-масавая, спартыўная і гаспадарчая камісіі ствараюцца не дзеля "галачкі". Таму ў іх склад выбіраюцца людзі, якія па сваёй актыўнасці, дзелавых і маральных якасцях і інтарэсах здольны ўдзельнічаць у паляпшэнні вучэбна-выхаваўчай работы. За любую карысную справу, якую прапануе ім класны кіраўнік, бяруцца з ахвотай, падчас за кошт сваіх дамашніх клопатаў.

У якім класе звычайнай агульнаадукацыйнай школы, скажыце, няма "нядобранадзейных" сем'яў?.. Зразумела, што ў класнага кіраўніка пры яго шматлікіх абавязках рукі да ўсяго, як кажуць, не дойдуць. А адзін у полі не воін... Таму і даручаюць удумлівыя настаўнікі бацькоўскаму актыву вывучаць сямейныя ўмовы праблемных дзяцей, каб пасля сумесна вызначыць характар неабходнай дапамогі. Тут якраз набытыя бацькамі веды па сямейным выхаванні — як знаходка. А каму ж найперш і спрыяць павышэнню педагагічнай культуры татаў і мам, як не бацькоўскаму камітэту?

У адной школе мне расказалі пра такі выпадак. Маці аднаго вучня (жанчына ўвогуле талковая) была вельмі закамплексаваная, таму, зразумела, і ў вачах сына не мела належнага аўтарытэту: адносіны з ім у маці былі вельмі складаныя. Класны кіраўнік вырашыла ўвесці яе ў бацькоўскі камітэт, каб павысіць яе самаацэнку як асобы і яе аўтарытэт у сына. Параілася з бацькамі-актывістамі, і яны падтрымалі ідэю настаўніцы. І што вы думаеце? Грамадская работа, да якой далучылі гэтую жанчыну, пасадзейнічала таму, што ўзаемаадносіны маці і сына змяніліся да лепшага, а праз пэўны час сталі сапраўды па-сямейнаму цёплымі і прыязнымі. "Я цяпер многае бачу інакш, — расказвала настаўніцы жанчына. — І свайго сына магу лепш зразумець".

Слухайце, вось што я ўспомніў! У адной вёсачцы мне расказвалі, што ўвесь клас мясцовай настаўніцы займаецца... танцамі ў Доме культуры на цэнтральнай сядзібе гаспадаркі. Аказваецца, настаўніца, заядлая танцорка, заручылася падтрымкай некалькіх бацькоў — такіх жа аматараў танца — і арганізавала сумесна з імі танцавальны гурток, у які пачалі хадзіць нават вельмі сарамлівыя дзеці, якіх да таго і на сцэну немагчыма было выцягнуць. Вось якая цудоўная метамарфоза адбылася дзякуючы энергіі і захопленасці настаўніцы. Сапраўды, захопленасць прыходзіць ад захопленых!

А колькі класных кіраўнікоў падахвочваюць бацькоў да кіраўніцтва спартыўнымі, тэхнічнымі, турыстычнымі і іншымі гурткамі! Вучням сталічных школ пашчасціла ў тым сэнсе, што яны могуць хадзіць у тэатры, музеі, на выставы. Правільна робяць, на мой погляд, тыя настаўнікі, якія прывучаюць бацькоў разам з дзецьмі наведваць культурныя ўстановы. На жаль, такіх бацькоў усё менш і менш... І ўсё ж бацькі пры жаданні ў многім могуць дапамагчы настаўнікам. Напрыклад, арганізаваць свята нацыянальных страў, як зрабілі ў адной са школ. Кожная сям'я рыхтавала сваю страву. Канешне ж, "першую скрыпку" тут igралі мамы, але іх дзеці актыўна дапамагалі. Пасля ўсе сабраліся за бяседай (зразумела ж, "салодкай"), абменьваліся рэцэптамі, вялі размову пра нацыянальныя "харчовыя" традыцыі, пра правільную сервіроўку стала і правілы паводзін за сталом — такая сустрэча спадабалася і дзецям, і бацькам.

ЧАГО іншы раз не хапае бацькоўскім камітэтам? Большасць з нас адкажуць, напэўна, так: "Ініцыятывы". Сапраўды, без актыўнасці і заўзятасці класнага кіраўніка зачахне любая актыўнасць бацькоўскага камітэта. Калі настаўніку няма чаго прапанаваць бацькам, калі кантакты з імі не ідуць далей агульных, шаблонных "мерапрыемстваў", то наўрад ці стануць настаўнік і бацькі блізкімі адзін аднаму, ужо не кажучы пра тое, як успрымаюць такія нудныя імпрэзы дзеці... Нашы дзеці.

Дзеці, душы якіх — вельмі чуйны рэзанатар таго, што яны бачаць, што чуюць і што ўспрымаюць.

Іх жа вочы глядзяць і ў нашы душы...

**Алег КУЛІЦКІ.**

Сябар дзяцей



Работнікі міліцыі — частыя госці ў дзіцячых установах Крычава Гэта садзейнічае змяншэнню дзіцячага траўматызму на дарогах.
НА ЗДЫМКУ: работнік дарожна-патрульнай службы Крычаўскага РАУС старшына міліцыі Ігар Стасенкаў сярод выхаванцаў дзіцячага сада № 3 Крычава.

Фота Валерыя БЫСАВА, БЕЛТА.

# Весткі з Валожынскай школы-інтэрната

### Для адораных дзяцей

Прайшоў чарговы педагагічны савет спецыялістаў і кіраўнікоў школы-інтэрната па развіцці творчых здольнасцей, даследчых уменняў і навыкаў у дзяцей-сірот. Сваімі думкамі на гэты конт падзяліліся А.М.Грыбоўская, Н.А.Дурская, С.В.Правалінская, М.І.Масянковіч. А Ніна Уладзіміраўна Жданюк, дырэктар школы-інтэрната прадставіла канцэпцыю па развіцці творчых здольнасцей дзяцей-сірот і праграму "Адораныя дзеці". Гэтыя дакументы былі адобраны педагогамі ўстановы.

### Падарункі ад шэфаў

Днямі школу-інтэрнат наведалі шэфы — супрацоўнікі Міністэрства замежных спраў. Размова ішла пра шэфскую дапамогу з боку міністэрства ў 2000 г., намячаліся шляхі супрацоўніцтва на 2001 год. Намеснік міністра Аляксандр Пятроў, начальнік аддзела па рабоце з дыпламатычным корпусам Сяргей Малукоў, намеснік начальніка ўпраўлення справамі МЗС Аляксандр Рабаў прывезлі ў падарунак дзецям-сіротам два камп'ютэры, падарункі, цацкі. Вырашана: міністэрства замежных спраў акажа дапамогу школе-інтэрнату з аздараўленнем сірот за мяжой. Удзячныя дзеці падаравалі гасцям шыкоўны канцэрт народнай песні.

### Прыехаў у госці тэатр

Казкай-шоу "Прыгоды Машы і Віці" парадавалі сваіх сяброў са школы-інтэрната юныя артысты з Валожынскай гімназіі. Кацярына Дунаеўская, кіраўнік тэатральнай студыі гімназіі, сказала: "У 2001 годзе мы штомесяц будзем радаваць дзяцей-сірот спектаклямі, дэманстрацыяй талентаў гімназістаў. Зробім так, каб і дзеці-сіроты сталі членамі нашай тэатральнай студыі".

### "Хачу быць артыстам!"

Ужо не адзін год яднае школу-інтэрнат і мясцовы Дом культуры (дырэктар А.Г.Барадака) ідэя эстэтыка-культурнага выхавання дзяцей-сірот. Самадзейныя артысты Дома культуры паказваюць тэатральныя пастаноўкі дзяцям-сіротам. Сумесныя нарады, святы, вечары "круглага стала" — так жывуць ДК і школа-інтэрнат. А Аляксандр Шаўчэнка, Іна Шыбут так захапілі сваёй артыстычнай дзейнасцю, што Аляксандр Дашко, выхаванец 9 класа, сказаў: "Хачу быць артыстам!"

**Мікалай ГРУДЗІНСКІ.**



### Паважаныя чытачы!

**Падпісацца на "Настаўніцкую газету" можна ў любым паштовым аддзяленні ці ў агенцтве "Белсаюздруку".**

**Падпісны кошт на квартал для індывідуальных падпісчыкаў — 1440 рублёў.**

# Экономический факультет БГУ проводит олимпиаду по математике и экономике

По просьбе экономического факультета БГУ наша газета публикует условия и задания олимпиады для будущих абитуриентов.

Цель олимпиады – выявить способности к экономическому анализу с применением математических методов у будущих абитуриентов факультета (математика - основной экзамен при поступлении).

Олимпиада проводится в 3 тура, из которых первый - заочный.

Победители олимпиады по математике и экономике получат право поступать на экономический факультет БГУ вне конкурса. Призерам олимпиады будут выставлены оценки, которые по желанию абитуриента будут учитываться при поступлении на экономический факультет БГУ в качестве оценки по математике.

### Задания первого тура

1. Укажите перспективы развития экономики Республики Беларусь на 2001-2005 гг. (объем ответа не более 3 стр. текста).

2. При каких значениях параметра $a$ система уравнений

$$\begin{cases} y-a(x+2)=0, \\ y^2+(1-x)y+(x^2-1)(x-x^2)=0 \end{cases}$$

имеет четыре решения?

3. **Доходы фирмы таковы, что разности доходов двух последующих месяцев образуют арифметическую прогрессию, первый член которой равен нулю. Найдите величину доходов фирмы в *n*-м месяце и сумму доходов за n месяцев, считая заданными доход за 1-й месяц (*a1*) и разность арифметической прогрессии *(d)*.**

4. **Сумма в 40 000 руб. положена в банк под 12% годовых. После каждого года вкладчик берет 500 руб. Через сколько лет после взятия соответствующей суммы остаток будет вдвое больше первоначального вклада?**

### Как и куда отправить решения заданий первого тура

Участие в первом туре олимпиады – платное. Стоимость участия – 3100 рублей. Деньги отправляются почтовым либо банковским переводом с пометкой "Олимпиада" по адресу: 220050, г. Минск, пр-т Ф.Скорины, 4, Белгосуниверситет, расчетный счет 3622204930033 в Минской городской дирекции ААТ "Белбизнесбанк", код 764. Желающие могут оплатить непосредственно в расчетно-кассовом центре Белгосуниверситета (ул. Октябрьская, 10, тел. 229-25-90). Квитанция об оплате высылается или сдается вместе с работой первого тура.

Решения задач запишите в ученическую тетрадь, на обложке укажите свой почтовый адрес (результат вашего участия в олимпиаде будет сообщен вам по почте) и отправьте до 1 марта 2001г. по адресу:

**Минск, 220050, ул. К. Маркса, 31, экономический факультет.**

### ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ФАКУЛЬТЕТ

***ЭКОНОМИЧЕСКИЙ ФАКУЛЬТЕТ*** создан 1 марта 1999 года. Факультет готовит специалистов по трем направлениям:

**"экономическая теория"**, квалификация – ***экономист, преподаватель экономических дисциплин;***

**"менеджмент"**, специализация – ***"Менеджмент международного бизнеса";***

**"экономика"**, квалификация – ***экономист-аналитик.***

Экономистов-аналитиков БГУ готовит по лучшим зарубежным программам для работы в банках, страховых компаниях, министерствах, фирмах, крупных предприятиях на должностях экспертов, советников, стратегов. С третьего курса аналитики специализируются по четырем направлениям: *экономика народного хозяйства, экономика предприятия и предпринимательства, банковская и финансовая экономика, экономика внешней торговли.*

Отличие экономического образования в БГУ – его фундаментальность и широта. На экономфаке учат системному анализу, моделированию и прогнозированию экономических явлений и процессов на уровне государства, отрасли, концерна, финансово-промышленной группы, крупного предприятия, фирмы, банка. Наши студенты уже после первых двух курсов владеют компьютерно-информационными технологиями, статистическими базами данных в Internet, эконометрическими методами. В дальнейшем обучение навыкам практического анализа макроэкономических и микроэкономических ситуаций, бизнес-планирования, финансового анализа ведут кафедры экономических наук, экономической теории, финансовой и банковской экономики, менеджмента, экономической информатики и математической экономики. Уже сегодня на факультете около 500 студентов, работает почти 100 преподавателей, в том числе 8 профессоров.

Факультет тесно сотрудничает с рядом экономических факультетов университетов Германии, США, Польши, Франции. Отдельные предметы на факультете преподаются по оригинальным методикам Всемирного банка.

# Конкурс "Юны праграміст"

***Міністэрства адукацыі і Вылічальна-аналітычны цэнтр Міністэрства адукацыі праводзяць чарговы рэспубліканскі конкурс "Юны праграміст" на лепшыя распрацоўкі праграмных сродкаў (ПС) і Web-старонак, створаных навучэнцамі агульнаадукацыйных школ, ліцэяў, гімназій.***

**Мэты конкурсу:**

* уцягненне настаўнікаў у пошукава-творчы рэжым работы на ўроках інфарматыкі і ў пазаўрочны час з навучэнцамі, якія найбольш паспяхова вывучаюць асновы інфарматыкі;
* садзеянне абмену ідэямі, вопытам распрацоўкі праграм, Web-старонак і іх выкарыстанню;
* садзеянне павышэнню кваліфікацыі распрацоўшчыкаў, карыстальнікаў і настаўнікаў-практыкаў;
* стварэнне банка праграм.

Конкурс праводзіцца сярод індывідуальных і калектыўных распрацовак па наступных тэматычных накірунках:

1. Лепшая Web-старонка аб сваёй школе, горадзе і інш. (патрэбна ўказаць адрас старонкі);
2. Лепшы мультымедыйны сродак, прызначаны для вывучэння адной або некалькіх тэм па прадметах школьнага цыкла;
3. Лепшы інструментальны сродак для распрацоўкі праграм педагагічнага прызначэння;
4. Лепшая тэсціруючая праграма;
5. Лепшая мадэлюючая праграма;
6. Лепшая гульнявая праграма.

Асноўныя патрабаванні да ПС, прадстаўляемых на конкурс:

* праграмы павінны працаваць на IBM-сумяшчальных камп'ютэрах пад кіраваннем аперацыйных сістэм MS-DOS альбо Windows;
* у якасці асяроддзя для распрацоўкі праграм можна выкарыстоўваць любую мову праграмавання, а таксама любы з афіцыйна набытых школай пакетаў;
* праграмы павінны выкарыстоўваць стандартныя драйверы манітораў, прынтэраў, клавіятур і г.д. У выпадку выкарыстання нестандартных драйвераў тыя павінны прадстаўляцца разам з праграмай;
* праграма павінна быць гатова да эксплуатацыі, г.зн. наяўнасць у праграме прадугледжаных, але не рэалізаваных алгарытмаў, недапушчальна.

Для ўдзелу ў конкурсе неабходна да 1 мая 2001 г. прыслаць праграмныя сродкі на магнітным носьбіце і наступную суправаджальную дакументацыю на паперы (можна таксама па электроннай пошце):

* заяўку;
* кіраўніцтва па запуску і эксплуатацыі праграмы;
* методыку выкарыстання праграмнага сродку ў навучальна-выхаваўчым працэсе (для праграмных сродкаў педагагічнага прызначэння).

Усім аўтарам і аўтарскім калектывам, якія прадставяць ПС на конкурс, гарантуецца непарушэнне аўтарскіх правоў. Праграмы не тыражуюцца і не перадаюцца пабочным асобам і арганізацыям, а пасля заканчэння конкурсу вяртаюцца аўтарам разам з магнітнымі носьбітамі.

Пераможцы конкурсу ўзнагароджваюцца дыпломамі. Колькасць дыпломаў вызначае журы конкурсу. Найбольш цікавыя ПС будуць зарэгістраваны ў галіновым фондзе праграмных сродкаў Міністэрства адукацыі і, па жаданню аўтараў, з імі можа быць заключаны дагавор на далейшае распаўсюджванне ПС.

Канчатковыя вынікі конкурсу будуць надрукаваны ў "Настаўніцкай газеце" у маі 2001 года.

Матэрыялы накіроўваць: 220088, г.Мінск, вул. Захарава, 59, ВАЦ МО РБ, аддзел інфарматыкі і інфармацыйных тэхналогій;

***тэлефон:*** (017) 236-19-45

E-mail:fond@cacedu.unibel.by,komik@cacedu.unibel.by

**Форма заяўкі**

1. Прозвішча, імя, імя па бацьку распрацоўшчыка(аў).
2. Нумар і адрас школы (або іншай навучальнай установы), клас распрацоўшчыка(аў).
3. Хатні адрас, тэлефон, e-mail (пры наяўнасці) аднаго з распрацоўшчыкаў.
4. Прозвішча, імя, імя па бацьку настаўніка (кіраўніка гуртка), які аказаў дапамогу ў рабоце над ПС.
5. Назва ПС.
6. Прызначэнне ПС (коратка).
7. Тып і канфігурацыя ПЭВМ.
8. Мова праграмавання з указаннем версіі.
9. Аб'ём ПС (Кбайт).
10. Тэматычны накірунак, на які прадстаўляюцца ПС.

